# Тыднёвік Магілеўскі




№ 9 (124) 31 жніўня – 6 верасьня 2001 г. Бясплатна


## Роздум пра сёньня ў куце старажытным



*Выбары міжволі надалі актуальнасьці праблемам нацыянальнага сувэрэнітэту, гісторыі і культуры, у любові да якіх цяпер клянуцца ўсе прэтэндэнты на прэзыдэнцкую пасаду. Безумоўна, што ў выбарчых мэтах будзе скарыстаная і такая выдатная нагода як Сьвята беларускага пісьменства і друку, што гэтым разам пройдзе 2-га верасьня, у нядзелю, у старажытным Мсьціславе. Сюды чакаецца прыезд ці не адразу ўсіх кандыдатаў, што будзе, безумоўна, цікава... Аднак пры ўсёй палітычнай мітусьні вакол аднаго зь лепшых дзён беларускага календара ёсьць надзея, што сьвята пройдзе ня толькі пад знакам выбараў і тым больш фальклёру, а будзе сапраўды напоўненае нацыянальным водарам і зьместам. Шмат што сёлета спрыяе гэтаму. Гістарычнасьць, старажытнасьць выбранага для сьвяткаваньня месца. Знакамітая постаць першадрукара і асьветніка Пётры Цімафеева (Мсьціслаўца), што з гэтых мясьцінаў панёс па сярэднявечнай Эўропе ўсьлед за Скарынам друкаванае хрысьціянскае слова. Не зусім яшчэ паніклае рэлігійна-духовае жыцьцё тутэйшых божых вернікаў, дзякуючы цудоўна ўратаванаму сярэднявечнаму Сабору кармелітаў і наяўнасьці праваслаўнай Царквы. Шмат што зрабіла мясцовая і абласная ўлада ў рэстаўрацыі Мсьціслава да сьвята, хаця цэнтральная ўлада краіны сваіх фінансовых абавязкаў на гэты конт ня выканала (гэта ж ня шклоўскія дажынкі)...*

*У нядзелю ў Мсьціславе сьвята. Выдатны падмурак для ўдзельнікаў і гасьцей адпачыць і павесяліцца. Але ж і лішні раз успомніць: хто мы і што мы. Лішні раз падумаць: куды і за кім ісьці нам ад імклівa надыходзячага 9-га верасьня...*

## Рэха сустрэчы адзінага кандыдата з магілёўскім прафактывам

***Пасьля таго, як У.Ганчарык сустракаўся з прафактывам у нашым абласным цэнтры, пагутарыць зь ім захацеў таксама старшыня аблвыканкаму. Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі абласнога аб'яднаньня прафсаюзаў Б.Батура заявіў, што сыходзіць з прафсаюзу.***

Увогуле, сустрэча гэтая была скліканая зь яго ініцыятывы, каб "удакладніць пазыцыі ды ўзгадніць дзеяньні ў перадвыбарчы пэрыяд". Старшыня аблвыканкаму папросту выказаў пажаданьне, каб прафсаюзы падтрымалі Лукашэнку, выкарыстаўшы ўласныя рэсурсы.

Але ня толькі пажаданьні прагучалі падчас сустрэчы. Б.Батура заявіў таксама аб тым, што будуць перагледжаныя дамовы з тымі галіновымі прафарганізацыямі, якія не падтрымаюць на выбарах таго ж самага кандыдата, што і ён. Спадар Любчанка, старшыня аблаб'яднаньня, мяркуе, што ўсе заявы абласнога начальніка былі зробленыя "згарача". Як бы там ні было, пісьмовай заявы Батуры аб выхадзе з прафсаюзу ён пакуль ня бачыў.

А вось пра тое, што ўлады праводзяць палітыку фінансавага ўдушэньня прафсаюзаў, сьведчаць факты. На сёньня прадпрыемствы і арганізацыі вобласьці не пералічылі на прафсаюзныя рахункі каля 700 мільёнаў рублёў сяброўскіх унёскаў. Гэтыя грошы, аднак, ужо вылічаныя з заробкаў людзей.

Г.С.

## Дрыбін: выбарчы зрэз

Самы малады адміністратыўны райцэнтар вобласьці – гэта, дарэчы, таксама прычына – найбольш заціснуты афіцыйнай прапагандай і найбольш бедны на арганізаваныя дэмакратычныя суполкі. Але – не на дэмакратычныя памкненьні і праявы. Усё больш тут аб'яўляецца людзей, якія далёка ня ўсё прымаюць на веру, якія ведаюць пра жыцьцё ня менш самых дасьведчаных сталічных правадыроў і зазывалаў. Але пачуць дрыбінцам гэтых сваіх людзей ня лёгка.

*"ТМ" ахвотна пайшоў насустрач мясцовай дэмакратычнай супольнасьці й разьмесьціў у гэтым нумары адмысловую Дрыбінскую старонку. Яна надрукаваная на 4-й паласе ў рубрыцы "Дрыбін: выбарчы зрэз".*

## Падобных справаў у нас не зьлічыць

***Звольненыя ў 1995 годзе за ўдзел у страйку мэтрапалітэнаўцы вітаюць намер У.Ганчарыка абараніць і аднавіць іхныя працоўныя правы.***

Пра гэта заявіў старшыня Дэмакратычнага прафсаюзу транспартнікаў Уладзімер Макарчук, які шэсьць гадоў таму ўзначальваў Свабодны прафсаюз мэтрапалітэну й быў у эпіцэнтры падзеяў, зьвязаных з гвалтам над удзельнікамі страйку. А ўчыніла гэты гвалт каманда Лукашэнкі.

"У першы ж дзень страйку, – нагадаў У.Макарчук, – прыехаў прадстаўнік адміністрацыі прэзыдэнта Даўгалёў. Ён адразу ж пачаў запалохваць, што калі мэтрапалітэнаўцы ня спыняць страйку, то будзе разагнаны ўвесь мэтрапалітэн, а потым яны набяруць новыя кадры".

Справакавала ж страйк рабочых грубае парушэньне адміністрацыяй мэтрапалітэну калектыўнай дамовы. Спыніць пратэст рабочых было вырашана гвалтоўным чынам – супраць іх тады накіравалі ўзброеныя спэцатрады міліцыі. Пазьней былі звольненыя 58 рабочых. Двое зь іх ужо памерлі, астатнія вось ужо 6 гадоў чакаюць перагляду гэтай справы. Надзеі звольненых мэтрапалітэнаўцаў, паводле словаў У.Макарчука, зьвязаныя з абраньнем новага прэзыдэнта.

***Паводле радыё "Свабода"***

## Абавязкова стане вядома

***"Калі раней я ня быў да канца ўпэўнены, што Лукашэнка сам стаіць за зьнікненьнем апазыцыйных лідэраў, дык цяпер у мяне такіх сумненьняў няма", – заявіў у інтэрвію нямецкай газэце Frankfurter Allegemeine Zeitung былы начальнік менскага сьледчага ізалятара №1 палкоўнік Алег Алкаеў.***

Да такой высновы ён прыйшоў пасьля таго, як Лукашэнка асабіста спыніў расьсьледаваньне ў справе забойстваў, якія нібыта зьдзяйсьняў камандзір спэцпадразьдзяленьня Паўлючэнка на загад былога старшыні Рады бясьпекі Шэймана і былога міністра ўнутраных справаў Сівакова. Паводле заявы Алкаева нямецкім журналістам, "усіх сьведкаў, супрацоўнікаў пракуратуры і міліцыянтаў, якія займаліся расьсьледаваньнем справы зьнікненьня, змусілі выступіць з заявамі, што эскадроны сьмерці не існуюць". Сам жа Алкаеў, які цяпер часова знаходзіцца ў Нямеччыне, адмовіўся выступіць з падобнай заявай. Наадварот, ён сярод першых выступіў з абвешчаньнем таго, што ўлада мае дачыненьні да зьнікненьня няўгодных людзей.

◆

Чым бліжэй выбары,тым усё больш living рознай інфармацыі на гэты конт абвальваецца на галовы электарата. Ня ўсёй можна і трэба давяраць. Адное патрабуецца цяпер: сапраўднае і незалежнае расьсьледаваньне абставінаў гучных справаў. Улада аднак адмаўляецца ад міжнароднай дапамогі ў гэтым, і тармозіць пошукі праўды сама.

***"Тыднёвік"***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Можна было не сумнявацца, што некаторыя з абласных доўгабудаў будуць завершаныя "пад выбары". Улада не магла не паказаць, як яна дбае пра інтарэсы грамадзянаў. У Бабруйску такі даўгабуд – мост праз Бярэзіну. Ну дык ня мог прамінуць яго Лукашэнка: выдаткаваў грошы са "свайго" фонду. Пададзена ўсё было амаль так, быццам гэты мост пабудаваў асабіста Сам. Ну што тут сказаць? І фонд гэты нікім больш не кантралюецца, і колькі ў ім яшчэ сродкаў, – ніхто ня ведае. Вядома, аднак, што на пабудову бярэзінскага мосту раней зьбіраліся грошы з прадпрыемстваў. Было паведамлена таксама, што тыя грошы падчас будаўніцтва сэканомілі, каб збудаваць яшчэ і новую школу. Ведаючы, як у нас звычайна "эканомяць", я асабіста вельмі хвалююся за якасьць таго мосту...

Ня варта было нікому сумнявацца, калі такія людзі й былі, навошта ў Магілёве прайшоў сход мясцовай арганізацыі Беларускага саюза афіцэраў. Дастаткова толькі даведацца, хто там выступаў: дэпутатка палаты Н.Аўдзеева, яе калега А.Архіпаў, намесьнік старшыні Ленінскага райвыканкаму В.Кандрацьеў etc. Усе выступоўцы толькі тым і займаліся ў сваіх прамовах, што расфарбоўвалі ўладараньне Аляксандра Рыгоравіча. Натуральна атрымоўвалася, што астатнія кандыдаты на выбарах – гэта мярзотнікі ды агенты ўплыву, якія толькі й мараць пра тое, каб загнаць сінявокую Беларусь у крыважэрнае НАТО.

Яшчэ адзін "перадвыбарчы" сход правялі ў Магілёўскім тэрытарыяльным камітэце прадпрымальніцтва й інвэстыцыяў. Старшыня ўстановы Віктар Красоўскі даводзіў камэрсантам, што ім зараз з кожным днём усё прасьцей і ямчэй працаваць. Адбываецца гэта таму, што эканоміка ў надзейных – вядома, чыіх – руках. Праўда, некаторыя бізнэсоўцы спрабавалі скардзіцца на падаткі, што вышэйшыя на 10-15% у параўнаньні зь іншымі абласьцямі, ды яшчэ казалі, што за месца на рынку трэба даваць хабар, а таксама розных кантралёраў не пакрыўдзіць... У адказ на гэтыя несьвядомыя выступы чыноўнік патлумачыў, што нават калі пакуль ня ўсе праблемы 'шчэ вырашаныя, дык пасьля выбараў яны дакладна зьнікнуць. Трэба толькі цяперашняму прэзыдэнту перамагчы.

У сярэдніх школах №35 Магілёва, №28 Бабруйску і №3 Горак у новым навучальным годзе адбудзецца цікавы экспэрымэнт. З хлопцамі 10-х і 11-х клясаў будуць працаваць адмыслоўцы зь Міністэрства надзвычайных сытуацыяў. Будуць навучаць іх на ратавальнікаў. А каб патрапіць у іх лік, трэба мець цудоўнае здароўе і добры розум (г.зн. адпаведныя паказчыкі па матэматыцы й фізыцы). Шкада, што ад навучэнцаў гэтак жа не патрабуецца быць падрыхтаванымі ў гуманітарных дысцыплінах. Бо, урэшце рэшт, яны ж людзей, а не машыны нейкія будуць ратаваць.

У хуткім часе, паводле словаў начальніка Магілёўскага ўпраўленьня аховы здароўя Уладзімера Пячкоўскага, зьявяцца ў нашых шпіталях "палаты падвышанай камфортнасьці". Але гэта яшчэ ня ўсё. Аналізы можна будзе здаць у сябе дома. Праўда, прыйдзецца за камфорт заплаціць. Тыя ж аналізы абыйдуцца ў 5-7 тысячаў рублёў. Шпіталёвая палата, зразумела, "пацягне" на больш значную суму. Добры знак! Каб яшчэ запрацавала ў нас страхавая мэдыцына, і каб кожны, дзякуючы яе мэханізмам, меў магчымасьць скарыстацца падвышанай камфортнасьцю! Аднак, цалкам лягічна хочацца запытацца: зь якога боку тут будзе "лукашэнкавы сацыялізм"?..

*Сустрэнемся праз тыдзень. Сымон Глазштэйн.*



# Тры складнікі заўтрашняй задачы

*Рэдакцыя "ТМ" добра разумее, што ва ўмовах адсутнасьці партыйных мэтаў і стратэгіяў пабудовы дзяржавы (менавіта так мусіць быць у нармальнай краіне), усе "прыватныя" выбарчыя праграмы падобныя адна на адну.*

*...Лукашэнкаўскую праграму ёсьць каму прапагандаваць і хваліць бяз нас (штодня гэта робяць дзяржаўныя газэты і, зразумела, БТ). Пра тое, як зьбіраецца ашчасьлівіць народ сп.Гайдукевіч, нам папросту нецікава ведаць. Застаецца Уладзімер Ганчарык, які сапраўды адчувае найбольшы ўціск з боку ўлады і ейных сродкаў масавай інфармацыі.*

*Гэта несумленна, несправядліва і няроўна. Адсюль нашая сёньняшняя публікацыя тэзісаў выбарчай Праграмы кандыдата ад шырокай грамадзка-палітычнай кааліцыі.*



**ЭКАНОМІКА.** Сёньняшняя сыстэма дзяржаўнага кіраваньня эканомікай збудаваная паводле прынцыпу: хто больш зробіць, у таго больш адбярэм, хто задачу ня выканае – таго пакараем, хто незадаволены нашымі парадкамі – той рызыкуе свабодай і жыцьцём. Гэта трэба тэрмінова зьмяніць. Я гарантую вяршынства Закону, у тым ліку над дэкрэтамі і ўказамі прэзыдэнта, адмену па-за судовай канфіскацыі маёмасьці. На працягу кароткага часу будуць створаныя добрыя ўмовы для роўнага, эфэктыўнага гаспадараньня на прадпрыемствах і арганізацыях усіх формаў уласнасьці, уключна з малым і сярэднім прадпрымальніцтвам. Будзе ўведзены заяўляльны прынцып рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарчай дзейнасьці. Будзе сфармаванае здаровае канкурэнтнае асяродзьдзе, рынкавая інфраструктура, у т.л. грашова-крэдытны, валютны й фондавы рынак.

Будзе забясьпечаная рэальная незалежнасьць банкаўскай сыстэмы, спыніцца выдача эмісійных крэдытаў. Будзе ўстаноўлены сапраўдны абменны курс беларускага рубля, скарочаныя нерацыянальныя дзяржаўныя расходы, у т.л. будзе ўпарадкаваная структура і колькасьць дзяржаўнага апарату, кантрольных і сілавых органаў. Мы перагледзім парадак і аб'ёмы фінансаваньня масавых мерапрыемстваў, будаўніцтва задарагіх аб'ектаў і г.д.

На працягу году будзе зьмененая сыстэма падаткаў у бок іхняга зьніжэньня і спрашчэньня выплатаў, значна скароціцца колькасьць ліцэнзійных відаў дзейнасьці, усялякі кантроль і праверкі. Будзе забясьпечанае рацыянальнае выкарыстаньне нашага геапалітычнага становішча. Мы спрасьцім мытныя працэдуры й зьнізім пошліны, у першую чаргу тыя, што перашкаджаюць увозу і ўкараненьню перадавых тэхналёгіяў. За кошт падатковых ільготаў і дзяржаўных гарантыяў мы будзем намагацца атрымаць унутраныя ды зьнешнія інвэстыцыі, каб тэхнічна перарабіць ды рэканструкцыянаваць прамысловыя прадпрыемствы, сельскія гаспадаркі, энэргетычныя комплексы, транспартныя камунікацыі, турызм, сувязь, страхавую справу, стварыць новыя працоўныя месцы.

Прыярытэтным стане таксама разьвіцьцё навукі, падтрымка маладых пэрспэктыўных вучоных, працаўладкаваньне спэцыялістаў, выпускнікоў ВНУ. Мы будзем клапаціцца аб тым, каб яны хутчэй змаглі засвоіць замежныя мовы, авалодаць працай на кампутары.

Каб падтрымаць вытворчасьць на вёсцы, дзяржава будзе фінансаваць мэтанакіраваныя праграмы. Будзе выконвацца парытэт коштаў на прамысловую ды сельскагаспадарчую прадукцыю. Эканамічны абарот зямлі будзе ажыцьцяўляцца ў строгіх рамках закону, на карысьць грамадзянаў. На вёску прыйдзе эканамічна выгодная спэцыялізацыя і каапэрацыя сельскагаспадарчай вытворчасьці. Калектыўныя гаспадаркі будуць мець права добраахвотна пераўтварацца ў самастойныя аб'яднаньні таваравытворцаў на падмурку свабоднага выбару формаў уласнасьці ды арганізацыі вытворчасьці.

**САЦЫЯЛЬНАЯ СФЭРА.** Дзяржава будзе гарантаваць працаздольным – працу, нямоглым – дапамогу і клопат. Я гарантую сацыяльную справядлівасьць, рэальны рост дабрабыту ўсяго насельніцтва, а ня бюракратычнай часткі яго, павагу да якаснай і прадукцыйнай працы. На працягу году будзе праведзеная рэформа заработнай платы, паступова вызначаны яе мінімальны памер, затым – памер мінімальнага спажывецкага бюджэту. Будуць адмененыя неабгрунтаваныя абмежаваньні аплаты працы, у т.л. у бюджэтнай сфэры. Будзе забясьпечаны ўдзел работнікаў у разьмеркаваньні прыбытку, вызначаная адзіная стаўка падаходнага падатку. Будзе забясьпечаная своечасовая выплата пэнсіяў ды дапамогі ўсім, хто мае на тое права, падвышаныя іхныя сумы. Мы ўзнавім безпадстаўна адабраныя льготы вэтэранам вайны і працы, інвалідам, ахвярам палітычных рэпрэсіяў, "чарнобыльцам". Будзе праведзеная кампэнсацыя банкаўскіх укладаў насельніцтва з улікам росту спажывецкіх цэнаў.

Каб захаваць нацыю, будзе створаная сыстэма абароны мацярынства і дзяцінства, стымуляваньня нараджальнасьці. Разьвіцьцё сфэраў адукацыі, аховы здароўя і культуры будзе праводзіцца на падставе прынцыпу ўсеагульнага доступу і добрай якасьці. У цэнтры ўвагі дзяржавы будзе вырашэньне жыльлёвай праблемы. Далей будзе будавацца жыльлё, адновіцца ільготная падтрымка грамадзянаў з улікам іх даходаў, перш за ўсё – маладых сем'яў, а таксама продаж жыльля ў крэдыт.

Вельмі важкай часткаю дзяржаўнай палітыкі стане пераадоленьне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. З мэтаю добра ахоўваць здароўе грамадзянаў будзе перагледжаны статус "чарнобыльскіх" раёнаў. Зьнікнуць перашкоды на шляху атрыманьня гуманітарнай дапамогі, будзе адладжаная дакладная сыстэма аздараўленьня насельніцтва, у першую чаргу дзяцей.

**ДЗЯРЖАВА.** Каб вярнуць уладу народу, я гарантую: – перагляд і пашырэньне паўнамоцтваў і правоў парлямэнту, ураду, органаў мясцовага кіраваньня; – аб'яднаньне ўсіх дзяржаўных сродкаў і фондаў, акрамя Фонда сацыяльнага страхаваньня, у адзіны кансалідаваны дзяржаўны бюджэт; – узнаўленьне кантролю парлямэнту і мясцовых Саветаў над выкананьнем бюджэтаў усіх узроўняў, выкарыстаньнем дзяржаўнай уласнасьці.

Будуць рэальна забясьпечаныя канстытуцыйныя правы грамадзянаў, уключна з правам на свабоду слова, перакананьняў, веравызнаньняў, недатыкальнасьць і годнасьць асобы. На працягу першых 100 дзён будзе праведзеная рэабілітацыя незаконна асуджаных, адноўленыя правы незаконна звольненых, у т.л. работнікаў Менскага мэтрапалітэну (страйк 1995г.), будуць забароненыя законам палітычны вышук і нагляд. Будуць прынятыя вычэрпныя меры па вызначэньні вінаватых у зьнікненьнях людзей, у т.л. вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячаў.

Гарантую ўзнаўленьне незалежнасьці судовай сыстэмы, выбарнасьць судзьдзяў усіх узроўняў, забесьпячэньне сапраўднай барацьбы са злачыннасьцю, карупцыяй, чынавенскім свавольствам. У першую чаргу будзе палепшаная праца праваахоўных органаў па абароне маёмасных правоў грамадзянаў (кватэры, дачы, транспарт).

Будзе праведзеная вайсковая рэформа паводле прынцыпу дастатковасьці для забесьпячэньня сувэрэнітэту краіны. Паступова будзе ўведзеная альтэрнатыўная служба. Будзе зьдзяйсьняцца таксама паступовы пераход да прафэсійнага войска. Будуць распрацаваныя меры па працаўладкаваньні вайскоўцаў.

Будуць утвораныя неабходныя ўмовы для разьвіцьця нацыянальнай культуры і мовы, да ўжываньня нацыянальнай гістарычнай сымболікі. Гарантую палітычным партыям, грамадзкім арганізацыям права на ўдзел у выбарах у парлямэнт і мясцовыя органы ўлады, на доступ да дзяржаўных СМІ.

Стасункі органаў дзяржаўнага кіраваньня з прафэсійнымі саюзамі, аб'яднаньнямі наймальнікаў будуць строга абапірацца на прынцып сацыяльнага партнэрства й эфэктыўнага ўзаемадзеяньня.

**Наша праграма заснаваная на здаровым сэнсе, эканамічным зацікаўленьні й палітычнай волі. Дзеля ейнага выкананьня ўжо падрыхтаваны эканамічны й сацыяльна абаснаваны плян практычных дзеяньняў будучага ўраду.**

**Мы не абяцаем – мы зробім!**



# Няпроста зрабіць зь мяне аптыміста...

Цяжкая задача перад намі. Трэба выбраць кіраўніка краіны на наступныя 5 гадоў. Не павінна быць цяпер ніякіх ілюзіяў, што калі памылімся і справы пойдуць ня так – яго можна будзе датэрмінова замяніць. Не, трэба зараз думаць і несьці сваю адказнасьць увесь тэрмін. Таму я галасую за Ўладзімера Ганчарыка. І справа ня ў зьмене кіраўніка як такой. Справа – у неабходнасьці зьмены курсу, якім краіна ішла да гэтага часу. У зьмене эканамічнага курсу, ды й самой якасьці нашага жыцьця. Папярэднія 7 гадоў нашай рэчаіснасьці даказалі, што мы ўсё больш і больш адстаем ад цывілізаванага сьвету. Здаецца, усё ў нас ёсьць: працалюбівыя людзі, зямля, выгоднае геаграфічнае становішча. Не такія мы ўжо бедныя на прыродныя рэсурсы. У чым жа справа?

Уся бяда, мне падаецца, у парушэньні правоў чалавека. З аднаго боку ў нас сапраўды больш правоў, чым у эўрапейскага грамадзяніна: больш правоў на дрэнную працу, прагулы, гультайства, п'янства. Затое зусім няма правоў на прыстойны заробак, на вольнае прадпрымальніцтва, на свабоду валоданьня зямлёй ці сродкамі вытворчасьці. Нам столькі гадоў даводзілі, што нібыта калектыўная форма валоданьня сродкамі вытворчасьці і, адпаведна, вынікамі працы – гэта ёсьць лепшая мадэль эканомікі. Даказваюць гэта і зараз. А насамрэч менавіта індывідуальны інтарэс бярэ верх над іншым, прыватная зацікаўленасьць у працы вырашае яе ўзровень. Таму, дарэчы, і адстае калгасная сыстэма. Аднак сёньняшні кіраўнік краіны выкарыстоўвае настальгічныя пачуцьці многіх людзей дзеля таго, каб вярнуць нас у той гістарычны час, які мінуў, які ня вытрымаў іспыту на практыцы. Сапраўды, многія яшчэ думаюць, што "раней, да гэтай дэмакратыі, мы жылі лепш". А хто ведае і помніць, якія на тое былі скарыстаныя сыравінныя і прыродныя рэсурсы? Хто ведае і помніць, колькімі жыцьцямі заплацілі народ за выгляд дабрабыту?..

Не выпадкова, дарэчы, што пры камуністычна-савецкай уладзе Беларусь была ператвораная ў зборачны цэх СССР. Тут былі больш кваліфікаваныя інжынэры і рабочыя. Тут людзі працавалі больш сумленна і старанна, чым дзе. Значыць, пакуль яшчэ не прапала ўсё, валодае наша краіна патэнцыялам, самым важкім, самым значным – выдатнымі людзьмі. Чаму ж самім ім не дазваляецца цяпер распараджацца на сваёй зямлі і ў сваіх справах? Чаму нельга выкарыстоўваць гэты патэнцыял з тым, каб у сабекошце прадукцыі закладвалася кваліфікаваная праца (і адпаведна добры заробак), а ня толькі запазычаная сыравіна і запазычаныя энэргарэсурсы?



Мне падаецца, што для таго, каб гэта спраўдзілася, патрэбны новы чалавек, які сам валодае высокім і адказным інтэлектам. Тут, як гаворыцца, нагамі не дапаможаш. Тут галава патрэбная. Шмат разумных галоваў. Цяпер такога ў нас няма. Ёсьць адзін, што пра ўсё ведае, аб усім маркуе, усяму дае канчатковую ацэнку. Уладзімер жа Ганчарык прапануе падзяліць уладу з урадам і парлямэнтам. Падзяліць уладу на заканадаўчую і выканаўчую, на незалежную ні ад каго – толькі ад закону! – судовую ўладу. Даць поўную, сапраўдную свабоду сродкам масавай інфармацыі – гэта значыць даць кожнаму з нас права выказвацца па набалелых пытаньнях, абвяшчаць сваю думку, не баючыся перасьледу. Да таго ж вольная прэса паўсюль ёсьць лепшым кантралёрам любой улады, бо такая прэса служыць грамадзтву і працуе на грамадзтва, а не на які орган улады ці тым больш – на аднаго чалавека.

Патрэбная нам як паветра эканамічная свабода. У свабоднай эканоміцы не бывае такога ўрону ад неразумных загадаў, які церпім мы цяпер. Дзяржаўная маёмасьць на ўсё і ва ўсім, як цяпер, вымушае людзей выконваць распараджэньні, а ня думаць пра рэальныя вынікі працы. Паверце мне, чалавеку, які кіруе гаспадаркай 29-ты год, што ўсе яе папярэднія посьпехі і ўсе сёньняшнія (дзякуй за тое людзям) былі і ёсьць магчымымі толькі таму, што ніколі ня гнаўся я за агульнымі паказчыкамі, як загадвалі, а думаў толькі аб прыбытку – для гаспадаркі, і для людзей таксама. Ад прыбытку расьлі аб'ёмы вытворчасьці, не наадварот! А калі прадукт стратны, аднак выпускацца, ён робіць беднымі ня толькі працуючых, а нават наступнае пакаленьне. Такія законы эканомікі, нічога не папішаш.

Да законаў, трэба дадаць, патрэбныя грошы і сродкі, альбо, як цяпер гэта завецца, інвэстыцыі. Адкуль іх узяць? Унутраных – няма, бо эканоміка краіны ледзь зводзіць канцы з канцамі. Зьнешніх – няма, бо з такой краінай, дзе ўсім упраўляе адзін чалавек, дзе няма свабоды ні эканоміцы, ні прэсе, ні чалавеку, Захад мець справаў не рызыкуе. Ды й пагарэў ужо на некаторых праектах (Форд, напрыклад). Без інвэстыцыяў ня будзе новых і прыбыльных рабочых месцаў, ня будзе сучасных тэхналёгіяў, ня будзе прыстойных заробкаў. Мірыцца трэба з Захадам і наогул з навакольнымі суседзямі! Сумняваюся, каб быў на тое здольны Лукашэнка, што пасьпеў з-за неразумных амбіцыяў і паводзінаў з усімі перасварыцца на сорам беларусам і краіне.

...Сустракаўся я днямі з Ганчарыкам. Шмат пра што пагаварылі. Мяне цяжка назваць аптымістам, жыцьцё ня выхавала такім. Але нейкую надзею на лепшае адчуў у часе нашай сустрэчы, бо быў насупраць мяне разумны, спакойны чалавек. Ён гаварыў пра тое, што ведае, што адчувае, што намерваецца рабіць. Мяне пераканаў. Ён сапраўды здольны – ня сам адзін, разам з намі – стварыць тыя ўмовы, пра якія развазваў я вышэй. А што больш трэба? Астатняе мы і зробім, і зробім.

***Мікалай ЮРКОЎ,***
***старшыня калгасу "Дрыбінскі"***

**ДРЫБІН: ВЫБАРЧЫ ЗРЭЗ**

# А сапраўды: хто ж вінаваты?..

...Некалькі дзён да выбараў. Чым бліжэй 9 верасьня, тым усё больш дазнаемся мы з афіцыйных газэтаў, радыё і тэлебачаньня, з вуснаў мясцовага начальства, што ўсё у нас добра і нават больш таго. Бо ёсьць прэзыдэнт, зь якім нам проста нескаэана пашанцавала. І я ўжо напраўду пачынаю думаць, што можа я, вясковая настаўніца з 27-гадовым стажам, адзіная, хто ня ўмее жыць. Ніяк мне не дацягнуцца да больш-менш прыстойнага існаваньня. Нават перад вучнямі няёмка, бо папярэднія дагэтуль 20 гадоў працы я займалася самаадукацыяй, увесь час праводзіла ў школе альбо па-за школай з вучнямі, шмат чытала – была той настаўніцай, якой і павінен быць чалавек, што любіць сваю прафэсію. А сёньня, пры тым што менш прафэсію любіць ня стала, я мушу больш займацца прыватнай гаспадаркай, трымаць карову, сьвіней – аддаваць свой час ім. Уяўляю рэакцыю сваіх гарадзкіх калегаў на такое маё прызнаньне. Але, дарагія мае калегі, хто з вас у сваіх умовах не заклапочаны тым самым – як пражыць, як забясьпечыць сям'ю? Я дакладна ведаю, што й адпачынак правялі вы ў гэтых клопатах. Паверце мне, я ня самая горшая вясковая настаўніца, проста сваёй працай у школе я не магу зарабіць столькі, колькі трэба на сям'ю і дастатак у ёй.

Што гэта я ўсё пра сябе? Жыве побач са мной добры сусед, пэнсіянэр Фядос Астапавіч Жукаў. Дзеду 72 гады, ня пье, што цяпер рэдкасьць для вёскі, пачувае сябе па здароўі даволі трывала. Люблю зь ім перакінуцца калі словам. Днямі загаварылі пра выбары. Запыталася: ну што, Астапавіч, зноў будзем выбіраць Лукашэнку? І пачула нечаканае: "Не, даражэнькая, я больш сваімі рукамі ўладу яму не аддам. Хто гэта сказаў, што мы, пэнсіянэры, жывем добра? Мы прыбітыя гэтым жыцьцём, вось гэта праўда. Даношваем тое, што набылі калісь. Ядзім тое, што самі вырошчваем. А ў мяне яшчэ дачка з унукамі. У мяне пэнсія 41 тысяча, а ў яе заробку 40. Я вымушаны трымаць гаспадарку, каб нешта даць ім".

Цяжка жывуць людзі. Але яшчэ горш – духова. Кнігаў і газэтаў ня маюць і не чытаюць. Тэлевізары старыя, паказваюць дрэнна, альбо сапсаваныя зусім, а грошай на новыя няма. Тым ня менш, як зачараваныя любяць свайго прэзыдэнта, а вінаватымі ва ўсім лічаць мясцовае начальства. Вось старшыня калгасу вінаваты, начальнік які з райвыканкаму – таксама, а прэзыдэнт – не, ён за нас усёй душой, а яму не даюць, перашкаджаюць! А я дакладна ведаю, што ў мясцовым начальстве шмат сумленных прафэсійных людзей, аднак прыніжаных таксама, як усе мы. Шмат гадоў аднак спатрэбіцца, каб аднавіць павагу да мясцовага начальства, так моцна ўкаранілася непавага да яго. Хто ж вінаваты ў тым?..

Хутка выбары. Дарагія мае землякі, ёсьць час падумаць, што трэба зрабіць, каб заквітнела наша любімая Беларусь. Жыцьцё ў нас адное, ня трэба нам дзяліцца на сяброў і ворагаў, на сваіх і шкоднікаў. Разам трэба, адна ў нас краіна, адное жыцьцё. Гэта кажу вам я, звычайная вясковая настаўніца, маці трох дзяцей, бабуля аднаго ўнука. Пра іх і думаю.

***З павагай,***
***Ніна Васільеўна КРЫВІЦКАЯ***

# Пачытаеш газэту – і бягом на выбары

Нечаканая прыемнасьць зваліася на пэнсіянэраў раёна. Гэтымі днямі й ажно да самых выбараў кожнаму зь іх у хату паштальёны прыносяць бясплатную раённую газэту "Савецкая вёска". Амаль 4 тыс. асобнікаў афіцыйнага раённага выданьня аплочаныя за кошт бюджэту. Чым жа выкліканая неабходнасьць выдаткаваньня на гэта больш за 2 мільёнаў рублёў? Выбарамі, зразумела. Старыя людзі, чаго грахі тоіць, застаюцца найбольш трывалай электаральнай базай дзеючай улады. А каб, ня дай Бог, не перадумалі нашы дзядулі і бабулі, улада абыходжвае іх дадатковай прапагандай. Практычна ў кожным нумары раёнкі – справаздачы пра сустрэчы з народам старшыні райвыканкаму В.Конанава, якія напоўненыя аптымізмам, верай у правільнасьць курсу, абяцаньнямі вырашыць усе праблемы. Пачытаеш такое, і сапраўды да раю зямнога – рукой падаць. Толькі выбяры таго, каго ўлада прапануе.

***Фядос НАЗІРАЛЬНЫ, наш мясцовы карэспандэнт***

# Так падказваюць сэрца і розум

Нялёгкі адрэзак сваёй гісторыі перажывае беларускі народ у сучасны перыяд. Беларусы, як і іншыя народы сьвету, маюць права на сваю незалежнасьць і дзяржаўнасьць Яны заўсёды імкнуліся да гэтага.

Але давайце ад пачатку. З таго дня, калі кіраўніком Беларусі стаў А.Лукашэнка, мы бачым, што ня зьдзейсьненыя абяцаньні спыніць крызысныя зьявы і павысіць жыцьцёвы ўзровень насельніцтва, але ёсьць яшчэ большае паглыбленьне крызысу і зьбядненьне народа. Для доказу жабрацкага становішча, у якім апынулася большасьць жыхароў Беларусі, ня трэба прыводзіць шмат лічбаў і параўнаньняў. Гэта можна ўбачыць у кожнай краме, паглядзеўшы на цэны тавараў і прыкінуўшы, наколькі хопіць заробку рабочага ці калгасьніка, настаўніка ці мэдыка, ужо ня кажучы аб спажывецкіх магчымасьцях пэнсіянэраў. Але ад аднаго прыкладу ўтрымацца не магу. Кошт нармальнага (не шыкоўнага) вянка на магілу роўны амаль чатыром (!) мінімальным заробкам...

Сем гадоў – дастатковы час, каб зьмяніць сытуацыю да лепшага ў краіне, тым больш такой невялікай і працалюбівай, як наша. І як надалей могуць спакойна заставацца на сваіх пасадах прэзыдэнт, кіраўнікі ўрады і дэпутаты палатаў? Няўжо сапраўды ім ня сорам глядзець у вочы людзям, якія ў свой час ім паверылі і так цярпліва чакалі апраўданьня надзеяў?!

Сёньня ў нас ёсьць шанец зьмяніць сытуацыю ў нашай краіне. Перш за ўсё я хачу заклікаць усіх, каму не абыякавы лёс дзяржавы, зрабіць выбар на карысьць У.Ганчарыка. Калі хочаце, сэрцам чую і розумам разумею, што такі талерантны чалавек патрэбны менавіта ў гэты час.

***Сьвятлана ЎЛАДЗІМЕРАВА,***
***жыхарка Дрыбіна***

# Абаранi Сябе Сам

**_Матэрыялы гэтай рубрыкi рыхтуюць Магiлёўскае аддзяленьне Беларускага Хельсiнскага Камiтэту i Магiлёўскi Праваабарончы цэнтар. Склад грамадзкай рэдакцыi: С.Абадоўскi, У.Краўчанка, А.Александровiч._**



## Шчыруюць больш за ўсiх

**_Гэтым разам матэрыялы рубрыкi поўнасьцю прысьвечаныя выбарам. З дня iх абвешчаньня больш за ўсё працы менавiта ў праваабаронцаў, паколькi найбольш на гэтым напрамку грамадзкага жыцьця зараз шчыруюць не палiтычныя партыi, актывiсты кампанii цi журналiсты – што было б цалкам нармальна, а ... мiлiцыя. Шчыруе яна энэргiчна, апэратыўна, масiравана. На жаль, вельмi часта – парушаючы заканадаўства. Пра гэта мясцовае прадстаўнiцтва БХК iнфармавала днямi свой цэнтральны офiс, АБСЭ, ЦВК. З гэтага дакумэнта мы скарысталiся пададзенай нiжэй iнфармацыяй._**

**14 жнiўня** iнспэктар мiлiцыi Цэнтральнага РАУС г.Магiлёва Гарбачоў а 18-й спынiў на вулiцы падлетка Рымкевiча Андрэя i ўчынiў агляд прыватных рэчаў. Пры гэтым у затрыманага былi канфiскаваныя выбарчыя агiтацыйныя друкаваныя матэрыялы, якiя заклiкалi грамадзянаў iсьцi на выбары. Пратаколу аб канфiскацыi асабiстых рэчаў падлетка мiлiцыянэр ня склаў, вусна папярэдзiўшы, каб той яму больш не трапляўся.

**14 жнiўня** прыкладна ў той жа час супрацоўнiкi шклоўскай мiлiцыi ў вёсцы Гарадзец затрымалi групу моладзi, якая праводзiла цалкам законную агiтацыйную акцыю. Па ўказаньнi пракурора раёна супраць затрыманых была тэрмiнова ўзбуджаная крымiнальная справа па арт.368 Крымiнальнага кодэксу, яка прадугледжвае адказнасьць за абразу прэзыдэнта.

**18 жнiўня** а 9-й гадзiне на Слаўгарадзкiм рынку па ўказаньнi начальнiка раённай мiлiцыi Балдышэўскага i палкоўнiка абласнога ўпраўленьня ўнутраных справаў Клiмавай быў праведзены ператрус працоўных месцаў прыватных гандляроў. Мiлiцыянты забiралi знойдзеныя газэты й iншыя друкаваныя матэрыялы, што мелi адносiны да выбараў. Пры гэтым яны не складалi пратаколаў i актаў канфiскацыi.

**20 жнiўня** а 17.15 капiтан магiлёўскай мiлiцыi Бадзякоў затрымаў пазаштатнага карэспандэнта адной зь недзяржаўных газэтаў Iрыну Цароў i даставiў яе ў пастарунак, дзе канфiскаваў "пад пратакол" наяўныя пры ёй газэты i некаторыя выбарчыя друкаваныя матэрыялы. Спроба затрыманай давесьцi мiлiцыянтам, што выбарчая агiтацыя дазволеная ў тым лiку й праз распаўсюд газэтаў, вынiкаў ня мела. Як i тое, што мiлiцыянты, на думку журналiсткi, парушылi як менеў 33 i 34 артыкулы Канстытуцыi.

**21 жнiўня** а 23-й магiлёўскi лейтэнант мiлiцыi Мачэкiн затрымаў трох падлеткаў, якiя знаходзiлiся побач з наклеенымi на сьцяне будынку агiтацыйнымi выбарчымi матэрыяламi. Афiцэр прымусiў падлетка Д.Пашко садраць гэтыя матэрыялы са сьцяны. Астатнiх даставiў у пастарунак, дзе затрыманых абшукалi, але без пратаколу цi якога акту. Па сьведчаньнi хлопцаў, зь iмi ў даволi пагрозьлiвай форме правёў гутарку лейтэнант Гладкоў.

**21 жнiўня** а 17-й супрацоўнiкi Цэнтральнага райаддзела мiлiцыi затрымалi грамадзянаў А.Шаваронкава, У.Гайдукова, В.Разумава i суправадзiлi iх у райаддзел. Вiна гэтых людзей, на меркаваньне мiлiцыянтаў, заключалася ў тым, што яны знаходзiлiся побач з групай грамадзянаў, якiя моўчкi стаялi на вулiцы з партрэтамi зьнiклых у Беларусi вядомых асобаў. Кiраваў затрыманьнем падпалкоўнiк Ермакоў. Затрыманых адпусьцiлi пасьля 3-х гадзiнаў утрыманьня ў пастарунку.

**21 жнiўня** позна ўвечары на ўезьдзе ў Магiлёў мiлiцыя спынiла аўтамабiль, у якiм знаходзiлiся грамадзяне А.Фёдараў, А.Мурадзян i А.Страх. Iм патлумачылi, што начальства распарадзiлася затрымаць менавiта iхнюю машыну. Грамадзяне везьлi з сталiцы друкаваныя лiсты з тэкстам Усеагульнай Дэклярацыi правоў чалавека ды агiтацыйныя матэрыялы за Ў.Ганчарыка. Затрыманых даставiлi ў райаддзел, куды хутка прыбылi старшыя афiцэры мiлiцыi Шахаў i Шагiнаў, якiя ўтрымлiвалi грамадзянаў i аўтамашыну да 5-ай ранiцы. Прычыну ўтрыманьня ў тлумачылi. Пратакол затрыманьня скласьцi адмовiлiся.

На падставе гэтых i шэрагу iншых красамоўных фактаў умяшальнiцтва мiлiцыi ў выбарчую кампанiю на баку дзеючага кiраўнiка краiны, старшыня магiлёўскага аддзяленьня БХК Уладзiмер Краўчанка ў суправаджальнай заценсы да гэтага дакумэнту патрабуе спынiць заганную практыку. Калi ж яна будзе працягвацца, У.Краўчанка паставiць перад ЦВК пытаньне аб зьняцьцi кандыдатуры Лукашэнкi з рэгiстрацыi на падставе артыкулаў 11, 26, 38 i 47 Выбарчага кодэксу, якiя груба парушаюцца.

## Плён залежыць ад сумеснай абароны

Праваабаронцы прапануюць грамадзянам зьвяртацца па фактах парушэньняў iхных правоў з боку мiлiцыi цi iншых дзяржаўных органаў падчас выбарчай кампанii да адпаведных структураў:

– у абласную пракуратуру (Магiлёў, вул. Дабралюбава,6)

– у Кансультатыўна-наглядальную групу АБСЭ (Менск, пр."Праўды", 11)

– у магiлёўскi Праваабарончы цэнтар i рэгiянальнае аддзяленьне Беларускага Хельсiнскага Камiтэту (тэл. 24-73-95, 22-95-83, 22-04-82, 22-73-05).

Пры гэтым пажадана рабiць гэта пiсьмова з падрабязным апiсаньнем выпадку, пералiчэньнем прозьвiшчаў удзельнiкаў i сьведкаў, цытаваньнем выказваньняў службоўцаў i г.д.

## Выратавальная прычына

У панядзелак група магiлёўскiх падлеткаў намервалася правесьцi перадвыбарчую акцыю перад Домам саветаў, дзе тым часам iшло паседжаньне аблвыканкаму.

Акцыя меркавалася ў выглядзе маўклiвага маршу маладых людзей, апранутых у майкi з надпiсам "Скажи дураку – НЕТ!", перад цэнтральным уваходам у Дом саветаў. Аднак туды моладзь не дайшла. Па загаду намесьнiка начальнiка абласнога ўпраўленьня ўнутраных справаў палкоўнiка Самсонава плошча была тэрмiнова ачэпленая мiлiцыянтамi. На яе не пускалi нiкога, папярэджваючы людзей праз мэгафон аб нiбыта закладзеным на плошчы выбуховым прыстасаваньнi.

Тым часам паблiзу плошчы й наогул у горадзе пачалося паляваньне за маладымi хлопцамi ў выбарчых майках. Блiзу 25 чалавек былi затрыманыя й ня надта ветлiва дастаўленыя ў блiжэйшыя апорныя пункты мiлiцыi. Там усiх зафiксавалi, правялi з кожным папярэджальную гутарку й адпусьцiлi апошняга непаўнагадовага праз 3 гадзiны ўтрыманьня ў пастарунку.

***Уласная iнфармацыя***



## Кожны аўторак на тым жа месцы...

**_Чарговая магiлёўская акцыя ў рамках агульнарэспублiканскай акцыi "Ланцуг неабыякавых людзей", у якiм прынялi ўдзел блiзу 40 чалавек, скончылая традыцыйным хапуном._**

У мiлiцэйскi пастарунак былi дастаўленыя шэсьць найбольш актыўных удзельнiкаў акцыi. Адметна, што мiнакi гэтым разам (а гэта было трэцяе дзейства ў жнiўнi) спрабавалi нават не дапусьцiць затрыманьня, як чулася з натоўпу, сумленных людзей, якiх у грамадзтве не стае. Мiлiцыянтаў гэта, аднак, не стрымала. У пастарунку на ўсiх затрыманых былi складзеныя пратаколы за парушэньне грамадзкага парадку. Iх пратрымалi да позьняга вечара. Да няпоўнагадовых затрыманых сюды ж былi выклiканыя iхныя бацькi. У мiлiцыю таксама прыйшлi праваабаронцы С.Абадоўскi i Ў.Краўчанка, якiя дамагалiся сваёй прысутнасьцi пры складаньнi пратаколаў на затрыманых у якасьцi iхных прадстаўнiкоў. Мiлiцыянты адмовiлi iм у гэтым без тлумачэньня прычынаў. Кiравалi ўсёй апэрацыяй ужо вядомыя па прозьвiшчах нашым чытачам падпалкоўнiкi мiлiцыi Ермакоў i Алёнушкiн. У сераду ранiцай магiлёўскi Праваабарончы цэнтар накiраваў шэраг заяваў пратэсту на адпаведныя адрасы з патрабаваньнем спынiць перасьлед людзей, якiя не парушалi нiякiх законаў.

***Аляксей ШАВАРОНКАЎ***
*Фота Д.Новiкава*



## Часовы перадых

"ТМ" атрымаў новыя факты, датычныя галадоўкi чатырох бабруйскiх жанчынаў. Паведамляем iх.

Старшыня гарвыканкаму Мiхаiл Бандарэнка нядаўна прапанаваў разгледзець жаноцкiя патрабаваньнi аб нябыцьцi жыльля ды аднаўленьнi на працы пасьля прыезду ў Бабруйск абласной камiсii дзяржаўнага кантролю, але жанчыны не пагадзiлiся на гэтую прапанову.

Аднак пасьля прыезду старшынi Беларускай арганiзацыi працоўных жанчын Марыi Алiевай i прапановы старшынi мясцовага аддзяленьня БХК Яўгена Чапурышкiна спынiць галадоўку з прычыны пагаршэньня здароўя, Галiна Гусева, Любоў Санковiч, Эва Сiмчук i Янiна Аўсянiк напiсалi лiст у гарвыканкам. У iм яны паведамiлi, што прыпыняюць галадоўку да часу праверкi фактаў, выкладзеных у iхных скаргах. Адразу пасьля накiраваньня лiста жанчыны трапiлi ў шпiталь.

***Аляксандар СЕРДЗЮКОЎ***

## Дэклярацыя як люстэрка праўды...

Уладзiмер Ганчарык прадставiў у ЦВК дэклярацыю аб даходах за 2000 год. Паводле дзяржаўных СМI, што надрукавалi гэтыя зьвесткi, сукупны даход адзiнага кандыдата ў прэзыдэнты ў мiнулым годзе – 5.315.098 рублёў.

Ягоныя складнiкi – Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларуская, Мiжнародны недзяржаўны iнстытут працоўных i сацыяльных дачыненьняў, пэнсiя, а таксама даходы ад продажу аўтамабiля й гаража. Ганчарык – саўладальнiк менскай кватэры ў 75,16 мэтраў квадратовых, гаража ў менскiм раёне, а таксама мае прыцэп, матаблёк МТЗ i 21 акцыю ТАА "ПМК-8" г.Чэрвеня. Даход жонкi Ганчарыка ў мiнулым годзе склала пэнсiя – 365 тысячаў 943 рубля.

Сукупны даход Лукашэнкi быццам бы склаў у мiнулым годзе 3.776.186 рублёў. Як тут не прыгадаць аб тым, што згодна дадзеных дасьведчанага часопiсу "Форбс", асабiстае багацьце Лукашэнкi ацэньваецца ў 2,2 мiльярды даляраў.

***Паводле паведамленьня прэс-цэнтру выбарчага штабу Ў.Ганчарыка***





9 сьнежня Беларусь ад значыць 110-ю гадавіну з моманту зьяўленьня на сьвет свайго слыннага сына Максіма Багдановіча (Скокліча). Суполка "Чароўны ўспамін" і абласная арганізацыя ТБМ прысьвяцілі гэтай даце чарговую аўтобусную вандроўку "Сьцежкамі Максіма Кніжніка".

Кампанія сабралася даволі пярэстая: выкладчыкі



ВНУ, настаўнікі школ, студэнты, школьнікі, дашкольнікі, журналісты, камэрсанты, музэйныя супрацоўнікі – усяго 24 вандроўнікі, ня лічачы кіроўцы, "ПАЗік" якога вытрымаў усе выпрабаваньні, прадзіраючыся па лясных сьцежках у пошуках мясьцін, прыдатных для начоўкі. 11 дзён вандроўкі (з 2 па 12 жніўня) пакінулі шмат уражаньняў – і ад сустрэч зь цікавымі людзьмі, і ад знаёмства з гістарычнымі мясьцінамі роднага краю.

Пачалося ўсё зь Вязьзя пад Асіповічамі, дзе чатырохгадовы Максім з братамі і матуляй правёў лета, засвойваючы родную мову з такой хуткасьцю і пранікнёнасьцю, што маці пачала непакоіцца, ці не забудзе ён рускую мову. У мясцовай школе абсталяваны пакой М.Багдановіча, у якім адбылася сустрэча з дырэктарам школы і настаўнікамі. Гучалі вершы Максіма, шчырыя словы да яго і пра яго; і няцяжка было пераканацца, што мова Максіма на гэтай зямлі жывая і запатрабаваная. На жаль, не захавалася хата цёткі Стэфы, дзе Максім правёў тыя 4 месяцы. Яна разбурана нейкіх 5 гадоў таму, бо на гэтым месцы заплянавалі зрабіць спартыўную пляцоўку. Цяпер – ні хаты, ні пляцоўкі.

Потым была цудоўная і

## БЕЛАРУСЬ, ЯКУЮ ВЫБІРАЕМ

# Сьцежкамі Багдановіча

зьмястоўная экскурсія па музэі Багдановіча ў Траецкім прадмесьці Менску. Непадалёк ад музэю знаходзіцца мясьціна, дзе была хата, у якой нарадзіўся Максім. На тым месцы зараз пункт прыёму ці то макулятуры, ці то шклатары. Наведалі і філію музэю – знакамітую хатку, у якой некалі жыла Максімава сям'я. Хатка захавалася, хаця й не на тым месцы, дзе была ў часы Максіма. Мы паглядзелі яе толькі звонку, бо яна зачыненая на рамонт.

Няўдача напаткала нас і ў Горадні, куды мы прыехалі ў нядзелю. Там прайшлі некалькі дзіцячых гадоў Максіма, і там захаваўся той дом, дзе зараз музэй М.Багдановіча. Але ў нядзелю ў музэі быў выходны дзень (?!), і ні вартаўніка, ні тэлефонаў кагосьці з адміністрацыі мы не знайшлі.

Гэтыя няўдачы ня вельмі псавалі настрой, бо спадарожна мы аглядалі славутыя мясьціны, гутарылі зь цікавымі людзьмі. Вялікае ўражаньне на ўсіх пакінула сустрэча з братамі Янушкевічамі ў Ракаве. А парэшткі Крэўскага замка ці замка ў Гальшанах, які выклікаў такую буйную фантазію Ў.Караткевіча! А цэрквы і касьцёлы, за якімі мудрасьць іх стваральнікаў і багатая гісторыя, што прайшла нават праз зьнішчальнае чэрава ленінскага сацыялізму! Ня меншую павагу выклікала і сьціплая Іўеўская мячэць – адзінае месца, дзе беларускія татары маглі гаварыць з Аллахам нават пры Саветах.

Пяць дзён вандроўкі крыху стамілі й на шосты мы вырашылі зрабіць прыпынак на пару дзён на беразе Вяльлі, недалёка ад маёнтка князя Агінскага, кампазытара і палкаводца.

Купаньне і лоўля рыбы ў Вяльлі і вадасховішчы, саматужная лазьня-парылка і дзьве ціхія цёплыя ночы зь песьнямі і размовамі, зь вечарынай, прысьвечанай Багдановічу-празаіку, зь віктарынай па творчасьці Багдановіча, перамогу ў якой здабыла Алена Мухіна, з фэстам "Блефзорка", галоўны прыз якога дастаўся самаму маленькаму – Стасіку Мухіну, пераапранутаму ў шыкоўнага лесавіка... У фэсьце ўзялі ўдзел і госьці – чацьвёра вандроўных "краёўцаў" з Маладэчна.

Увогуле за ўсю вандроўку мы ані разу не сустрэлі непрыязнасьці ні да бел-чырвона-белага сьцягу, ні да выявы "Пагоні", якія аздаблялі наш лягер. Наадварот: мы сустракалі аднадумцаў, і ня толькі кшталту тых маладых "краёўцаў". Сустрэўся нам і сталы чалавек у шапцы, да якой прыколата кукарда з выявай "Пагоні". Такія сустрэчы дапамагалі больш выразна адчуць, што Беларусь жыве.

Далей дарога вандроўнікаў раздвоілася: тыя, хто пасьпеў аформіць візы, паехалі ў Вільню, дзе напачатку стагодзьдзя выдавалася "Наша Ніва", у якой Максім пачаў друкаваць свае творы. Астатнія павярнулі назад, наведаўшы па дарозе музэй Багдановіча ў Ракуцёўшчыне і дом у Ігумене (Чэрвень), дзе нарадзілася маці Максіма, і дзе зараз вісіць шыльда, цудоўна выразаная з дрэва



Г.Матусевічам, мастаком, які колькі год таму працаваў у Магілёве. На заезд у Халопенічы Барысаўскага раёна, дзе нарадзіўся Адам Багдановіч, бацька паэта, і дзе зараз стаіць помнік Адаму, ужо не хапіла часу.

Такім чынам, беларускія сьцежкі Максіма абходжаны і абгледжаны. Але лёс наканаваў так, што большую частку свайго жыцьця Максім змушаны быў жыць далёка ад родных краёў, як ні рвалася яго сэрца на радзіму. Таму ў гэтай вандроўкі мусіць быць працяг, – Ніжні Ноўгарад, Яраслаўль і Ялта, дзе ён застаўся назаўсёды: "Ў краіне сьветлай, дзе я ўміраю, у белым доме ля сіняй бухты я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты".

*Міхась БУЛАВАЦКІ*

*Фота А. ЛІЦІНА*





## БЕЛАПАН для «ТМ»

**У віцебскім музэі Марка Шагала адкрылася выстава дзіцячага малюнка па творчаму праекту "Ліст да Марка Шагала".**

Праект быў арганізаваны беларускім прадстаўніцтвам нямецкага канцэрна "Хэнкель" падчас 7-га дзіцячага міжнароднага плэнэра памяці Уладзімера Караткевіча (Орша, ліпень 2001 года). Супрацоўнікі канцэрна раней зладзілі паездку групы дзяцей з 6-ці эўрапейскіх краінаў у Віцебск, дзе яны мелі магчымасьць азнаёміцца з гісторыяй і культурай беларускага горада. Дзеці пры разьвітаньні напісалі Марку Шагалу мастацкі ліст на вялікім палатне. Гэтая праца дэманструецца на пазначанай выставе разам зь яшчэ 65 творамі юных мастакоў зь Менску, Віцебску, іншых гарадоў краіны. Адзін з арганізатараў выставы Юры Іваноў, кіраўнік знакамітай арт-студыі "Востраў", выказаў надзею, што краіне спатрэбяцца свае таленавітыя людзі, якім не давядзецца пакідаць радзіму. Пасьля 9 верасьня выстава наведае Нямеччыну.

•

**У Менску адбылася сустрэча аматараў музыкі з выдаўцамі альбому "Легенды Вялікага Княства".**

Арганізатарамі гэтай акцыі "Памятай пра мінулае, выбірай будучыню!" выступіла моладзевая грамадзкая ініцыятыва "Беларуская музычная альтэрнатыва" і сталічная суполка ТБМ. Паводле словаў дасьледчыка гісторыі музыкі Вольгі Дадыёмавай, "наша гісторыя застаецца не зусім зразумелай нават яе знаўцам, таму такім вартасным сталася выданьне гэтага альбому". На дыску прадстаўлены ўзоры музычнага фальклёру і музыкі пісьмовай рэдакцыі часоў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама творы сучасных кампазытараў. Зачыняры нацыянальнай гістарычнай музыкі пачуюць на дыску Ларысу Сімаковіч, Алеся Пузыню і Алеся Жура, хор "Вунія", фольк-гурты "Вялікае Княства", "Кантраданс" і некаторыя іншыя. Прэзэнтацыя альбома распачнецца спачатку ў сталіцы, а потым у краіне з 7 верасьня. Суправаджаць яе будзе дэманстрацыя дакумэнтальнай відэастужкі "Абуджаная сталіца", прысьвечанай фэстывалю сярэднявечнай культуры "Наваградак-2000". Менавіта гэтая акцыя была прызнаная найлепшай нацыянальнай культуровай падзеяй апошняга часу. Нагадаем, што ў ёй бралі ўдзел 234 рыцары з 35 патрыятычна-гістарычных клюбаў Беларусі, Латвіі, Польшчы, Расеі і Эстоніі.

## БЕЛАПАН для «ТМ»

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Бабруйску



**25 жніўня каля пятнаццаці "зуброў" распаўсюджвалі ў горадзе газэты "Наша Свобода", "Зубр" ды налепкі "9 сентября – время выбирать". Міліцыя затрымала трох чалавек.**

Ужо праз некалькі хвілінаў каля пастарунку на цэнтральным рынку зьявіліся некалькі дзясяткаў чалавек, якія патрабавалі вызваленьня незаконна затрыманых. У адказ міліцыянты запрасілі прайсьці ў пастарунак усіх, хто быў апрануты ў майкі з надпісам "Скажем дураку – НЕТ!". Тых жа трох актывістаў, якіх затрымалі раней, перавезьлі ў Ленінскі РАУС, адкуль праз дзьве гадзіны адпусьцілі. Канфіскаваныя рэчы вернутыя не былі.

***Днямі ў горадзе актывісты мабілізацыйнай кампаніі "Выбірай" правялі чарговую акцыю, падчас якой былі раздадзеныя 3 тысячы буклетаў.***

Падчас распаўсюджваньня агітацыйных матэрыялаў моладзь тлумачыла мінакам, чаму галасаваць лепш за ўсё менавіта ў дзень выбараў, а не раней. Потым адбыўся "зуброўскі" пікет-напамін аб зьніклых вядомых дзеячах Беларусі.

***У сярэдзіне тыдня ў некалькіх гарадзкіх месцах адбыліся пікеты ў падтрымку адзінага кандыдата Ў.Ганчарыка.***

Падчас правядзеньня пікету на вул. 50 гадоў ВЛКСМ былі затрыманыя Віктар Качан і непаўнагадовая Кацярына, якая дапамагала распаўсюджваць друкаваную прадукцыю. У Першамайскім РАУС пратакол парушэньня складаў... намесьнік старшыні гарвыканкаму па ідэалёгіі В.Гарбанёў (?!). Ён таксама "изъял" у непаўнагадовай затрыманай майку "Скажем дураку – НЕТ!". Цягам размовы затрыманым даводзілі, што майкі гэтыя былі скрадзеныя зь мясцовай трыкатажнай фабрыкі. Пасьля трохгадзіннага ўтрыманьня ў пастарунку іх адпусьцілі.

***Вячаслаў КАПУСЬЦІН***

### ...з Шклову



***У мінулую нядзелю ў гарадзкім парку мелася адбыцца дзіцячае сьвятам пад назовам "Дзеці – будучыня Беларусі".***

Арганізоўвала імпрэзу мясцовая арганізацыя Беларускай асацыяцыі працоўных жанчынаў. Плянавалася зладзіць конкурсы, гульні, а таксама раздаць рознага кшталту прадукцыю з сымболікай БАПЖ. У парку ўжо сабралася блізу 50-ці дзетак з бацькамі, калі падыйшлі некалькі міліцыянтаў начале з намесьнікам Шклоўскага РАУС Піменавым, які запатрабаваў разысьціся. Як высьветлілася, падставаю для забароны дзіцячага сьвята стаўся дэкрэт №11, у якім гаворыцца аб мерах па ўдасканаленьні правядзеньня сходаў ды мітынгаў...

***Аляксандар ШЧАРБАК***

### ...з Дрыбіна



***Мясцовы жыхар Сяргей Мурзін даслаў старшыні раённай камісіі па выбарах прэзыдэнта і пракурору раёна адмысловую заяву.***

У ёй адзначаецца, што на старонках раённай газэты фігуруе прозьвішча толькі аднаго кандыдата ў прэзыдэнты – Лукашэнкі. На думку аўтара заявы, гэта не дазваляе выбарцам добра заарыентавацца ў перадвыбарчай сытуацыі, а да таго ж гэта ёсьць парушэньнем выбарчага заканадаўства (артыкулы 13 і 25). Згодна з арт. 49 сп.Мурзін просіць правесьці праверку фактаў парушэньня ды прыняць адпаведныя меры. Копіі заявы ён накіраваў у Беларускі Хельсінскі Камітэт і Кансультатыўна-назіральную групу АБСЭ ў Беларусі.

***ТАМТЭЙШЫ***

### ...з Клімавічаў



***Старшыня райвыканкаму тав.Канавалаў, ужыўшы грубую фізычную сілу, асабіста даставіў у міліцэйскі пастарунак актывістку выбарчага штабу Ў.Ганчарыка.***

Галіна Васільчанка напрыканцы мінулага тыдня даставіла ў родны горад некалькі сотняў буклетаў і партрэтаў Ганчарыка. Аднак яе падпільнаваў сам старшыня выканкаму, гвалтоўна зацягнуў немаладую ўжо жанчыну ў службовую "Волгу" ды адвез у РАУС, дзе і "здаў".

Праз 3,5 гадзіны беспадстаўнага затрыманьня Г.Васільчанку адпусьцілі, а друкаваная агітацыйная прадукцыя – дарэчы, цалкам легальная, – засталася ў міліцыі. Па словах пацярпеўшай, падчас нападу на яе выканкамаўскага старшыні, непадалёк знаходзіўся вядомы ёй сьведка, які бачыў усе дэталі "затрыманьня". Аднак на ўсе настойлівыя запыты супрацоўнікаў РАУС назваць імя гэтага чалавека, сп-ня Васільчанка адказала адмовай. Усе мы даведаемся, хто ён, цяпер толькі на судзе.

### ...з Чэрыкава



***Нядаўна тут затрымалі двух валанцёраў выбарчага штабу Ўладзімера Ганчарыка. Знойдзеную пры іх агітацыйную прадукцыю канфіскавалі.***

Абсалютна беспадстаўнае, трэба сказаць, затрыманьне адбылося ўвечары. Міліцыянты спынілі людзей, якія расклейвалі афіцыйныя агітацыйныя плякаты, абарвалі тое, што яны ўжо пасьпелі наклеіць й даставілі валанцёраў у РАУС. Потым іх выпусьцілі, але без агітацыйных матэрыялаў.

### ...з Крычава



***Днямі раённая афіцыйная газэта "Ленінскі кліч" адмовілася надрукаваць зварот з агітацыяй за Ў.Ганчарыка.***

Прасіла рэдакцыю ад гэтым мясцовая арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада". Прычына адмовы: маўляў, у звароце ёсьць паклёп на дзеючага прэзыдэнта. Актывісты "НГ" перакананыя, што забарона на публікацыю прыйшла зь мясцовага выканкаму, а ніякага паклёпу ў звароце няма. Абапіраліся ж яны у сваёй просьбе на Выбарчы кодэкс Беларусі, які гарантуе роўны доступ кандыдатаў да СМІ. Трэба адзначыць, што прыхільнікі Лукашэнкі ўжо звыш 10-ці разоў друкавалі падобныя звароты з заклікам галасаваць за іхняга куміра. Цяпер гарадзкая філія БСДП "НГ" чакае адказу на свой запыт у міжрайпракуратуру.

***Андрэй КУЗЬМІН***

---

**АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ**

*Міхаіл ПАСТУХОЎ, доктар юрыдычных навук, прафэсар, судзьдзя Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусі (красавік 1994г – студзень 1997г.)*

# Ліміт улады скончыўся

***Пададзеная ніжэй Выснова падрыхтаваная на падмурку артыкула І.Кавалеевіча пад назвай "Прэзыдэнтам яму далей ня быць" (спэцыяльны выпуск №27 "Предпринимательской газеты" за ліпень 2001г.). Аўтар артыкулу прапанаваў беларускаму грамадзтву разгледзець важкую праблему, вырашыць якую павінен кожны выбаршчык, – дзеля таго, каб зрабіць сумленны і сьвядомы выбар 9 верасьня.***

**14 жніўня** 2001г. Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала ў якасьці аднаго з кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь грамадзяніна А.Лукашэнку. Тым самым ён быў дапушчаны да ўдзелу ў выбарчай кампаніі.

Мяркую, што дадзенае рашэньне супярэчыць дзеючаму заканадаўству й ня мае ў сваім падмурку дастатковых падставаў.

На канстытуцыйным узроўні існуе патрабаваньне, у адпаведнасьці зь якім адна і тая ж асоба ня можа выбірацца прэзыдэнтам больш чым на два тэрміны. У нашым выпадку гэтай асобай ёсьць Лукашэнка.

У зьвязку з гэтым трэба абмяркаваць пытаньне: на які тэрмін балятуецца зараз грамадзянін Лукашэнка? Калі прааналізаваць дзеючае канстытуцыйнае заканадаўства, то атрымліваецца, што – на трэці.

Вядома, што Лукашэнка быў абраны на пасаду прэзыдэнта Беларусі ў чэрвені 1994г., і з моманту, калі ён прысягаў на Канстытуцыі, распачаўся адлік ягонага першага прэзыдэнцкага тэрміну.

Далей, у лістападзе 1996г. Канстытуцыя сталася для яго няўгоднай, нават небясьпечнай, бо ён раз-пораз парушаў канстытуцыйныя нормы й ня мог ужо дзейнічаць у ейных рамках. Канстытуцыйны суд 18 разоў вызнаваў прававыя акты прэзыдэнта Лукашэнкі неканстытуцыйнымі й адпаведна – парушаючымі правы й свабоды грамадзянаў краіны. Увосень 1996г. Лукашэнку пагражаў імпічмэнт. У такіх умовах ён ініцыяваў правядзеньне рэфэрэндуму па шэрагу пытаньняў, галоўным зь якіх, безумоўна, было пытаньне аб прыняцьці новай рэдакцыі Канстытуцыі.

Заўважу, што цалкам новую Канстытуцыю – па законе – прыняць на рэфэрэндуме было нельга, можна было толькі ўнесьці ў яе існуючы варыянт папраўкі. Таму прэзыдэнцкія юрысты прыдумалі цьмяную фармулёўку "новая рэдакцыя". Канстытуцыйны суд у сваім рашэньні 4 лістапада 1996г. выказаўся за тое, што галасаваньне па гэтаму пытаньню павінна мець неабавязковы характар. Спасылка на гэтае рашэньне Суда была ў бюлетэні. Лукашэнка, аднак, не пагадзіўся з рашэньнем Суда й выдаў распараджэньне лічыць вынікі галасаваньня абавязковымі для выкананьня.

Як адбываўся гэты рэфэрэндум, мы памятаем: разбэшчаная дзяржаўная прапаганда, прымус галасаваць датэрмінова, фальшывыя вынікі. Ужо на трэці дзень пасьля галасаваньня новая рэдакцыя Канстытуцыі была абвешчаная дзеючай.

Па-сутнасьці, пад выглядам рэфэрэндума група людзей пры ўладзе зьдзейсьніла дзяржаўны пераварот у краіне, т.б. захоп улады неканстытуцыйным шляхам. Легітымныя структуры ўлады (парлямэнт, урад, вышэйшыя суды) паводле гэтай новай псэўдаканстытуцыі былі распушчаныя. Замест іх былі сфармаваныя іншыя структуры. Вось тады ўжо Лукашэнка страціў канстытуцыйнае права быць прэзыдэнтам краіны.

Але, дзіўным чынам, менавіта новая рэдакцыя Канстытуцыі й "падставіла" яго. Яна дэ-юрэ скончыла першы тэрмін ягонага прэзыдэнцтва. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць і суаднесьці два артыкулы разьдзелу IX "Заключныя і пераходныя палажэньні".

Першы артыкул (арт.141) прадугледжвае, што зьмененая і дапоўненая ў выніку лістападаўскага рэфэрэндуму Канстытуцыя набывае моц з 27 лістапада 1996г. Другі артыкул (арт.144) устанаўлівае, што прэзыдэнт РБ захоўвае свае паўнамоцтвы. І далей: "Тэрмін ягоных паўнамоцтваў вылічваецца з дня набыцьця моцы дадзенай Канстытуцыяй".

Неглядзячы на пэўную блытаніну ў словах, усё тут абсалютна ясна: дзеючы прэзыдэнт застаецца на сваёй пасадзе без усялякага перавыбраньня і працягвае зьдзяйсьняць уладныя паўнамоцтвы. У зьвязку з гэтым тое, што ён не прысягаў другі раз, ня мае прынцыповага значэньня.

І ўсё было б у яго добра, калі б... Увядзеньне ў практыку фактычна новай Канстытуцыі спыніла папярэднія паўнамоцтвы Лукашэнкі, а значыць – і ягоны першы тэрмін прэзыдэнцтва. На падставе незаконна прынятай Канстытуцыі, у парушэньне дэмакратычных традыцыяў, Лукашэнка стаў кіраваць краінай паўторна.

Хтосьці скажа, што Канстытуцыя-96 падоўжыла паўнамоцтвы Лукашэнкі на два зь нечым гады, – і ўсё. Аднак гэта ня так. Тэрмін паўнамоцтваў прэзыдэнта РБ якім быў, такім і застаўся: 5 гадоў (арт.81). Падоўжыць гэты тэрмін паводле Канстытуцыі нельга. Бо тады наступае адказнасьць паводле часткі 2-й артыкула 357 Крымінальнага Кодэксу: "Захоп альбо ўтрыманьне дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам". Можна ў выніку атрымаць пазбаўленьне волі на тэрмін ад 10-ці да 15-ці гадоў. Але можна скараціць тэрмін сваіх паўнамоцтваў, што і адбылося на рэфэрэндуме 1996г. зь першым пяцігадовым тэрмінам Лукашэнкі.

Ён апынуўся ў прававым тупіку з уласнай ініцыятывы. Бо шляхам унясеньня паправак у тэкст Канстытуцыі-94, зразумела, нельга было застацца на пасадзе без правядзеньня выбараў.

Потым ён яшчэ адмовіўся браць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах у траўні 1999г., калі скончаўся законны тэрмін ягоных паўнамоцтваў. Адлік свайго новага кіраваньня ён вырашыў распачаць зь лістападу 96-га. І вось цяпер гэты тэрмін падыходзіць да завяршэньня.

Такім чынам, высоўваць сваю кандыдатуру на трэці тэрмін ён ня мае права паводле сваёй жа Канстытуцыі.

Сёньня А.Лукашэнка абавязаны зьняць сваю кандыдатуру з рэгістрацыі, а ЦВК павінна пазбавіць яго пасьведчаньня кандыдата ў прэзыдэнты. Ён ня мае права быць прэзыдэнтам краіны трэці раз.

## Апошняя справа – ківаць на суседа

***Вядома, што кіруючы ў Беларусі рэжым заўсёды намагаўся пераканаць людзей, што яны жывуць лепш за сваіх суседзяў.***

Вось і падчас нядаўняй сустрэчы з жыхарамі Барысава Лукашэнка заявіў, што дэмакратычная Польшча нібыта мае аграмадныя даўгі – 70 мільярдаў даляраў, за якія прыйдзецца расплочвацца наступным пакаленьням палякаў.

Тым часам, паводле дадзеных Польскага Нацыянальнага Банку (якія, дарэчы, ня ёсьць сакрэтам), сукупны зьнешні доўг польскага ўраду й сэктару мясцовага самакіраваньня складае 33 мільярды даляраў. Заўважым, што для Польшчы, якая дынамічна разьвіваецца ў апошнія гады, гэтая лічба не такая й вялікая. Цягам апошніх дзесяці гадоў Польшчы ўдалося напалову скараціць зьнешні доўг, а выплату пазасталай яго часткі адсунуць на шмат гадоў наперад. Свае міжнародныя абавязкі Польшча выконвае без праблемаў, бо плацяжаздольнасьць краіны на сусьветным рынку штогод узрастае.

І яшчэ адну важкую інфармацыю Лукашэнка не давёў да ведама беларусаў. Зьнешні польскі доўг паўстаў за часы Герэка, у 70-ыя гады, калі камуністычныя польскія ўлады бралі на Захадзе аграмадныя крэдыты й дрэнна іх выкарыстоўвалі. А частка тых крэдытаў наогул аказалася ў СССР у выніку невыгоднага для Польшчы тавараабмену ў рамках Савету эканамічнай ўзаемадапамогі...

*Паводле інф. агенцыяў*

ВЫБІРАЙ 09.09.2001

БЕЛАРУСЬ

## Каб забіць паўторна?

***Лукашэнка выдаў спэцыяльнае распараджэньне, якім загадаў паскорыць пашырэньне кальцавой дарогі вакол Менску.***

Як вядома, урочышча Курапаты – месца масавых расстрэлаў людзей у часе сталінскіх рэпрэсіяў, знаходзіцца непадалёк ад Лагойскага тракту. Сёньня, на першы погляд, ніякіх работаў у гэтым раёне не вядзецца. Нябачна і будаўнікоў, якія ў хуткім часе павінны пачаць рэканструкцыю кальцавой дарогі, што праходзіць у нейкай сотні мэтраў ад магілаў расстраляных.

Сябра Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ Уладзімер Юхо наведвае ўрочышча кожны дзень. Ён кажа, што насамрэч зьмены ўжо распачаліся: "Два тыдні таму на полі каля Курапатаў зьявіліся машыны, пачалося бурэньне, шмат калкоў панаставілі. Акрамя таго, невядомыя пачалі высякаць ва ўрочышчы дрэвы".

Тым часам вядома, што яшчэ ад 1993 году існуе плян, паводле якога новы ўчастак кальцавой дорогі павінны прокласьці ў абыход Курапатаў. Але, як цьвердзіць У.Юхо, цяперашняя рэканструкцыя прадугледжвае пашырэньне праезнай часткі да шасьці палосаў ***менавіта на месцы масавых расстрэлаў людзей***. У такім выпадку новая траса пройдзе акурат па крыжах, якія былі ўсталяваныя беларусамі ад 1988 году, калі ўпершыню ў найноўшай гісторыі ў Курапатах адбыўся жалобны мітынг.

*Рыгор МАЁРЧЫК*



## Войска звыклае да загадаў

**Нядаўна сталіся вядомымі некаторыя зьвесткі, датычныя арганізацыі выбараў прэзыдэнта ў войску. Паводле інфармацыі кіраўніка штабу Ў.Ганчарыка Валянціны Палевіковай, 7-8 верасьня ў асобных частках будзе ўведзенае "казарменнае становішча".**

У дзень выбараў асабовы склад вайсковых частак, а таксама тыя, хто прыпісаныя пры іх, атрымаюць "паіменныя" бюлетэні з праастаўленымі апоўкам нумарамі. Такім чынам працэс волевыяўленьня будзе поўнасьцю пад кантролем кіраўніцтва. Разьлік просты: людзі прагаласуюць "як трэба", бо непаслухмяныя будуць рознымі спосабамі пакараныя.

Наогул, падобная практыка была адпрацаваная яшчэ падчас правядзеньня рэфэрэндуму ў 1996 годзе, а пазьней – падчас выбараў у "палату". У пазасталыя да 9-га верасьня дні вайскоўцам будуць дэманстравацца відэастужкі аб тым, які харошы цяперашні кіраўнік дзяржавы: вось ён з усяе моцы намагаецца захаваць мір у краіне, вось ён падвышае ўзровень дабрабыту насельніцтва... Агітацыя на карысьць іншых кандыдатаў у войску забароненая.

Дарэчы, вядомыя манэўры "Нёман-2001" заканчваюцца 2-га верасьня, аднак вайскоўцы, што бяруць у іх удзел, заранёў атрымалі свае бюлетэні. І ня толькі бюлетэні, зразумела, але таксама й апячатаныя урны для галасаваньня. На ўсё гэта дала згоду ЦВК. Ня трэба казаць, што назіральнікі, а тым больш замежныя, на манэўры допушчаныя ня будуць.

*Паводле інф. агенцыяў*

## Як мінімум – другі тур?

***На пачатку жніўня, паводле зьвестак сацыёлягаў, рэйтынг Лукашэнкі складаў 44%, а сумесны рэйтынг адзінага кандыдата – крыху больш за 20%.***

У першай палове жніўня Незалежны Інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў правёў чарговае апытаньне грамадзкай думкі. Паводле яго вынікаў, за Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах гатовыя былі прагаласаваць 44% апытаных, за Домаша – 12,5%, за Ганчарыка – 11%, за Гайдукевіча – звыш 3%. Сёньня выглядае, што можна скласьці тагачасныя рэйтынгі дэмакратычных кандыдатаў.

Варта адзначыць, што яны пачыналі фактычна з нуля. Яшчэ ў чэрвені рэйтынг Ганчарыка быў каля 1%, а Домаша – 3%. Калі такі рост працягнецца, то гэта дае прыхільнікам адзінага кандыдата надзеі на другі тур. А калі раптам адбудзецца моцны скок уверх?.. І яшчэ адзін даволі цікавы чыньнік: большасьць прыхільнікаў Гайдукевіча ні ў якім разе ня будуць галасаваць за Лукашэнку.

Дагэтуль каля 30% апытаных ня схільныя галасаваць ні за кога з чатырох кандыдатаў. Такія людзі альбо ня пойдуць галасаваць (амаль 10%), альбо (звыш 20%) яшчэ ня вызначыліся са сваім кандыдатам. 11% рэспандэнтаў заявілі, што возьмуць удзел у масавых пратэстах у выпадку, калі вынікі выбараў будуць сфальшаваныя.

*Віталь ЦЫГАНКОЎ*

### ЗЬ ЛІСТА НА "СВАБОДУ"

## Ня ўсе здолелі падпісацца

Спадар Ян Эмоцын з Глуску напісаў ліст на радыё "Свабода" на тэму выбараў. У ім ёсьць, у прыватнасьці, такія словы: "Я са сваім сябрам Курловічам сабралі за Пазьняка 140 подпісаў і здалі іх у камісію, але нам ніякай даведкі не далі. Мо, "вэртыкальшчыкі" запісалі іх Гайдукевічу ці Лукашэнку? Зянон Пазьняк, як і раней, карыстаецца аўтарытэтам у Беларусі. Тое, што за яго сабралі 76 000 подпісаў – гэта посьпех. Бо падпісацца за Пазьняка значыла рызыкаваць, што цябе могуць звольніць з працы, што ты набудзеш мянушку "нацыяналіст" ці нават "фашыст". А колькі подпісаў за Пазьняка адкінулі "вэртыкальшчыкі"... Ды і ня ўсе, хто хацеў, здолелі за яго падпісацца. Вось мае бацькі зь вёскі Забалоцьце ўсёй душой за Пазьняка, але там ніхто не зьбіраў подпісаў".





Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 9. Наклад **3000** асобнікаў. Падпісана да друку 30.08.2001 г. а 17.05.